Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Нядзеля, 22 чэрвеня 1919 г. № 26.

## Перад новай вайной.

Заўтра, у панядзелак — 23 чэрвеня, а 7-й гадзіне увечары, канчаецца апошні срок для адказу немцаў, ці падпішуць яны варункі Антанты, ці адкінуць іх.

Ад таго, што скажуць немцы, будзе залежаць надта многае, а перш за ўсягo — ці быць новай вайне, ці не.

Калі немцы адкінуць варункі Антанты, то антантскія войскі пачнуць паход ў Нямеччыну і займуць яе пад сваю акупацыю. А што будзе тады рабіць нямецкі урад, а таксама нямецкі народ?

Урад Шэйдэмана кіруе цяпер Нямеччынай, мусіць, абгаварывае паміж сабой і гэтае пытаньне, з каторага знайсьці якоенебудзь пачэснае выйсьце вельмі трудна.

Падняць народны бунт? Але-ж гэта будзе значыць—урынуць Нямеччыну ў пошасьць бальшавізму і потым у пэўную пагібель, бо Нямеччыну ніхто не стане паднімаць, ня так, як Расею.

Пачаць новую вайну? Але-ж ці можа Нямеччына пры цяперашніх варунках, калі ў яе няма даўнейшых хаўрусьнікаў апрача хіба расейскіх і венгерскіх бальшавікоў, і калі армія яе распушчана, а з усіх бакоў процiў яе стаяць войскі француcкія, ангельскія, амэрыканскія, італьянскія, чэскія, польскія і г. д., ці-ж можа Нямеччына пры такіх варунках пачынаць новую вайну? Пачынаць вайну, каб дабіцца ў найхутчэйшым часе яшчэ горшых варункаў міра?

Не! Урад Шэйдэмана, нам здаецца, гэтага зрабіць ня можа, бо ён, з гэтакаю труднасьцю ўстанавіўшы ў Нямеччыне супакой і так энэргічна вёўшы ўвесь час барацьбу проціў бунта, не павінен пайсьці на бунт. Але-ж можа стаць і так, што урад Шэйдэмана, ня хоча падпісаць цяжкія варункі міра, а таксама і ня хочучы браць на сябе адказнасьці за непадпісаньне гэтых варункоў, зложыць з сябе паўнамоцтва і выйдзе ў адстаўку. Тады ўлада пяройдзе ў іншыя рукі.

Чыя рукі?

Як паведамляюць весткі з-за граніцы, ў Нямеччыне цяпер пачынаюць ізноў падымаць галовы нацыяналісты з графам Рэвентловым на чале. З другога боку — ня дрэмлюць і «незалежныя» социалісты, а таксама і прыдушаныя нямецкія бальшавікі.

Часта бывае так, што крайнасьці зходзяцца. Быць можа, што нямецкія бальшавікі з-лева і бальшавікі з-права зойдуцца на пункце а непадпісаньні варункаў міра. Шэйдэман тады можа аказацца у меншасьці, і мір ня будзе падпісан.

Ураду, каторы возьме уладу ў свае рукі, нічога другога не астанецца, як ізноў ваеваць.

Нямеччына, напэўна, зробіць тады спробу аб'еднацца з расейскімі і венгерскімі бальшавікамі.

Ужо даўно гавораць аб тым, што Нямеччына вядзе тайныя перагаворы з бальшавікамі, каб утварыць хаўрус дзеля супольнай барацьбы з Антантай. Калі гэты плян спраўдзіцца то, ня маючы надзеі супрацiўляцца Антанце, Нямеччына ўсе свае сілы кіне на Польшчу, каб, разбіўшы яё, прабіцца праз Польшчу і Літву да венгерскіх і расейскіх бальшавікоў. У адзін мамэнт можа стацца, што немцы, каторые цяпер разам з ліцьвінамі б'юць расейскіх бальшавікаў, пададуць ім руку і стануць біцца з палякамі. Калі ім удасца разбіць палякоў і аб'еднацца з венграмі, то гэтым самым дзяржавы Антанты будуць пастаўлены ў вельмі невыгоднае палажэньне. Бальшавізм можа тады захапіць Польшчу, Румынію, Аўстрыю і г. д.

Антанце прыдзецца вясьці новую цяжкую вайну, у каторай Нямеччына будзе мець новых хаўрусьнікаў у ліку бальшавіцкай Расеі і інш. За Антанту-ж будзе небальшавіцкая Расея, і мала-Чэхія, Сэрбія і г. д.

Такія перспэктывы рысуюцца нам пры тых варунках, калі Нямеччына не падпіша міру.

Лук—аш.

*Хто прыязджае у Вільню і мае хоць каліўца часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,—няхай ён будзе ласкау не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*

**БЕЛАРУСКАЯ РАДА**
памяшчаецца на Вострa-Брамскай вул., д. № 9.
Старшыня Рады прымае штo дзень, апрача сьвят, ад 1 да 2.
Сэкрэтар прымае у панядзелак, сераду і пятніцу ад 3 да 4.

**СКЛАД БЕЛАРУСКАЙ ЛІТЭРАТУРЫ, Завальная 7.**



## ДА МАСКВЫ ЦІ ДА ВАРШАВЫ?

Цяперашняе далучаньне той ці іншай часткі Беларусі да адраджонай палітычным мамэнтам польскай дзяржавы мае вялікае падабенства з «самахотным» далучэньнем Віцебшчыны і Магілёўшчыны да бальшавіцкай Масквы. Як тут на зьездах, што наперад прысабечываюць плебісцытныя правы, усе аказываюцца палякамі, так і там, на зьездах, скліканых у аднальковых варунках, усе аказываліся бальшавікамі. І як там, пешкі рабілі тое, што загадывалі ім з гары, так і тут бедныя хлопы робяць тое, што дыктуюць паны. Але ніводзін сур'ёзны чалавек ня можа лічыцца, як з рэзультатамі «работніцка-сялянскіх» зьездаў у бальшавіцкай сатрапіі, так і з фаль-

